Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

8—14 жніўня 1998 года
№ 58 (138)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 2000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

● *ЗАЎТРА — ДЗЕНЬ БУДАЎНІКА*





**Гэты васьмікватэрны дом па вуліцы Леніна ў Івацэвічах вырас літаральна на вачах у гараджан. Будаўнікі перасовачнай механізаванай калоны № 2 працавалі на гэтым аб'екце з сапраўдным энтузіязмам. За кароткі тэрмін былі зроблены ўсе асноўныя работы. А вось на аддзелцы пастараліся тынкоўшчыкі. Іх высокаму майстэрству можна па-добраму пазайздросціць, бо радуе не толькі знешняя, але і ўнутраная аддзелка пакояў. Маецца на ўвазе тынкоўка, пабелка, клейка шпалераў. Гэтую работу выдатна выконвалі тынкоўшчыкі Віталь Гардзіеўскі і Наталля Цэменя. Думаецца, што навасёлы застануцца задаволенымі і павіншуюць сваіх будаўнікоў з іх прафесійным святам.**

**НА ЗДЫМКАХ: тынкоўшчыкі Віталь Гардзіеўскі і Наталля Цэменя, вадзіцель аўтакрана Міхаіл Сітлоў; (унізе) васьмікватэрны дом па вуліцы Леніна ў Івацэвічах.**

**Фота А. ГАНЧУКА.**

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

БЯРОЗА

### У аблозе

аказаліся жыльцы дамоў 110"А", 110, 112 па вул. Леніна па волі будаўнікоў новага жылога дома, якія па добрай савецкай традыцыі так адгарадзілі сваю будаўнічую пляцоўку, што жыхары вымушаныя, каб выбрацца са свайго двара ў горад, на працу ці яшчэ куды, ці "накручваюць" паўкіламетровыя кругі, ці цiснуцца праз шчыліны ў будаўнічым плоце.

### У госці да гісторыі

У цэнтры Бярозы ёсць будынак своеасаблівай архітэктуры, дзе пасялілася гісторыя. Музей, размешчаны тут, раней называўся гісторыка-рэвалюцыйным, цяпер — краязнаўчым. Яго багацце — 25 тысяч экспанатаў, палова якіх захоўваецца ў фондах. З-за цеснаты і невялікай плошчы гістарычныя рэліквіі пакуль ляжаць мёртвым грузам.

У некалькіх залах музея можна пазнаёміцца з далёкім мінулым Бярозаўшчыны, барацьбой яе людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны, сённяшнім днём раёна.

З мэтай наблізіць экспазіцыю да гледача ў музеі нарадзілася ідэя праводзіць для дзяцей урокі прыгажосці. Самабытная мастачка Любоў Самохіна правяла такіх мерапрыемстваў больш за 50.

Музей наведваюць людзі розных узростаў. Кожны месяц тут бывае 20—35 груп. Для школьнікаў існуе прывілея — уваход для іх бясплатны.

ІВАЦЭВІЧЫ

### Танцуй, пакуль малады

"Целяханы, Целяханы, я ад скокаў іду п'яны" — гэты трапны жарт можна лічыць дэвізам свята танцаў, якое тут адбылося. Удзельнічалі ў ім дарослыя і дзіцячыя танцавальныя калектывы з Целяхан і бліжэйшых вёсак Аброва, Святая Воля, Амяльная... Гарачымі воплескамі гледачы праводзілі кожны танцавальны нумар. Найбольшым поспехам карысталіся свае, родныя: "Лявоніха", "Бульба", "Беларускі карагод".

### Экскурсія на колах

У чарговы раз пераканаўча даказалі, што хочуць і могуць жыць паўнакроўным жыццём людзі, якія па розных прычынах сталі інвалідамі. На вялікай эстрадзе Брэсцкага парку адпачынку выступілі ўдзельнікі І фестывалю творчасці інвалідаў Расіі і Беларусі. На канцэрце прысутнічала больш за 30 інвалідаў з Івацэвіцкага раёна. Паездку наладзіла раённая арганізацыя Беларускага таварыства інвалідаў.

Акрамя парку, экскурсанты ў той жа дзень наведалі крэпасць-герой і Белавежскую пушчу. Бясплатны аўтобус для паездкі выдзеліў аўтапарк № 14 (дырэктар І. М. Хмялеўскі).

### "Справа Кудзінава"

Расійская выдавецтва "Глобус" тыражом 10.000 асобнікаў надрукавала кнігу "Справа Кудзінава", выдадзеную Беларускім праваабарончым цэнтрам "Вясна—96". У кнізе сабраны шматлікія дакументы, што датычаць крымінальнай справы Уладзіміра Кудзінава — былога дырэктара ТПФ "Івацэвічы", дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання.

У прадмове кнігі гаворыцца, што справа Кудзінава — "тыповы прыклад расправы дзяржавы над непажаданымі ёй людзьмі, якія адыгрываюць прыкметную ролю ў жыцці беларускага грамадства". Дарэчы, пункт гледжання тых, хто судзіў У. Кудзінава, таксама выкладзены ў кнізе.

"Справа Кудзінава" будзе распаўсюджвацца не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі, у тым ліку — у Расіі.

### Царква па-ранейшаму ў рыштаваннях

Здаецца, храму ў Івацэвічах, які будуецца тут гадоў 7, наканавана доўга быць у рыштаваннях. Праваслаўныя вернікі часам з адчаем глядзяць на гэта будаўніцтва і нават наракаюць і на айца Рыгора, і на Мінскую епархію, куды яны, дарэчы, неаднойчы звярталіся са скаргамі. Аднак рэагавання на скаргі няма, і вернікам застаецца толькі адно: спадзявацца на Бога.

Праўда, у гэтым годзе галоўны купал царквы ўвянчаўся крыжом. Здавалася б, канец будаўніцтву храма блізіцца. Але вось і лета амаль прайшло, а рыштаванні, нібы павуціннe, ахутваюць будучую царкву. У адрозненне ад дома айца Рыгора — тут рыштаванні зняты, і ў прыгожым цагляным дамку працуюць будаўнікі — напэўна, заняты ўнутраным адстройваннем.

БАРАНАВІЧЫ

### Школа ўпрыгожыла вёску

Новы дыхтоўны будынак сучаснай архітэктуры нядаўна ўпрыгожыў вёску Сталовічы. Гэта будаўнікі ПМК-1 аблдзяржбуда зрабілі мясцовым педагогам і школьнікам падарунак да новага навучальнага года. Яны параспіліся так, каб школа да 1 верасня гасцінна расчыніла дзверы.

Школа ўзведзена па арыгінальнаму праекту, разлічана на 264 вучні. У ёй прасторныя светлыя класы і кабінеты, спартыўная і канферэнц-залы, утульная сталовая.

31 жніўня адбудзецца ўрачыстае адкрыццё школы.

● *ЗНАК БЯДЫ*

## УРОН ВЫЛІЧВАЕЦЦА МІЛЬЁНАМІ

**БЯРОЗА.** З трывогай паглядаюць у неба ў гэтыя дні жыхары Бярозаўшчыны. Ураган, які пранёсся над раёнам вечарам 2 жніўня, натварыў нямала бяды. У калгасе "Чырвоны сцяг" (брыгада "Касцюкі") страшнымі парывамі ветру знесены дах на зернетаках агульнай плошчай 2300 кв. м. Прамокла 400 тон зерня новага ўраджаю. Пашкоджаны дах на кароўніку, канюшні, КЗС, лініі электраперадач, і ў вёсцы Касцюкі тры дні не было электраэнергіі. Агульны ўрон, нанесены гаспадарцы, вылічваецца прыкладна сумай у 600 мільёнаў рублёў.

У той жа вечар ураган нанёс шкоду і ў калгасе "Прамень" (брыгада "Самойлавічы"). Тут таксама пашкоджаны дахі гаспадарчых пабудоў, у тым ліку на будынку зернесклада. Урон, па папярэдніх падліках, вылічваецца сумай у 200 мільёнаў рублёў.

Ноччу з 3 на 4 жніўня ўраганным ветрам знесены дах на кароўніку ў саўгасе "Спорава", у аграфірме "Малеч" таксама дзе-нідзе пашкоджаны дах пабудоў, паваленыя дрэвы.

Надзвычайная камісія, створаная пры райвыканкаме, вызначае памеры ўрону і меры па аднаўленні разбуранага.

## ЧОРНЫ ВЕЧАР ХАДАКОЎ

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Здаецца, паведамленні аб налётах урагану становяцца перыядычнымі. Не абышла бяда і вёску Хадакі, дзе 2 жніўня каля 7 гадзінаў вечара хуткасць ветру перавысіла 18 м/сек, а дождж ліў нібы з вядра. Пашкоджана 10 жылых будынкаў, з якіх пазрываны дах, лініі электраперадач і сувязі. У калгасе імя Чаркова разбураны дах некалькіх сельскагаспадарчых пабудоў, часткова разбураны два жылых цагляных дамы. З-пад абваленага франтона аднаго з іх выцягнуты рабочы лесапільнага цэха гаспадаркі Блахін, 1954 года нараджэння. Рабочы атрымаў цяжкія траўмы грудзей і галавы, знаходзіцца цяпер у райбальніцы.

Агульны ўрон, нанесены Хадакам, па папярэдніх падліках вылічваецца прыкладна сумай у 100 мільёнаў рублёў.

**Здымкі нашага карэспандэнта А.ГАНЧУКА зроблены ў Хадаках (паўразбураныя хаты, палеглая збажына).**







А дождж і лье, і лье, і лье бясконца —
І дзень, і ноч, і ўчора, і заўчора...
Гляджу на сумны, скрушны твар вяскоўца —
І на душы ад чорных думак чорна.
Чым угнявілі мы тварца сусвету?
За што наслаў на нас ён кару гэту?
Няўжо за наша ўмілаванне чорта?

*Ніл ГІЛЕВІЧ.*
*(З кнігі "Сяміраднхоўі").*

*Інфармацыйны выпуск "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: А. ЛАЎРАНЮК, Л. ЦАЛУЙКА (Івацэвічы), А. ГОРБАЧ (Баранавічы) і С. РУСЕЦКІ (пазаштатны) (Бяроза).*

● НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Ці атрымае Беларусь грошы?

***Міжнародны валютны фонд (МВФ) на днях яшчэ раз пацвердзіў, што эканоміка ў РБ надзвычай няўстойлівая. Такое рэзюмэ зрабіў савет дырэктароў фонду.***

Падставай для падобнага вываду сталі такія характэрныя, на думку экспертаў МВФ, асаблівасці цяперашняй эканамічнай палітыкі беларускіх улад, як празмерныя тэмпы росту эмісійнага крэдытавання, інфляцыйны ціск, усемагчымыя абмежаванні, адсутнасць структурных рэформ, што ў чарговы раз устанавіла майская місія МВФ у Беларусі.

Савет дырэктароў фонду дае зразумець беларускім уладам, што перамовы па фінансавай падтрымцы ў бліжэйшым будучым не прадбачацца. Яны будуць толькі ў тым выпадку, калі кіраўніцтва краіны пачне хоць бы рух у бок рэформ.

## Запаведніку — 10 гадоў

***Споўнілася дзесяць гадоў з дня заснавання Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка.***

Яго стварэнне на тэрыторыі Гомельскай вобласці звязана з аварыяй, што адбылася на Чарнобыльскай АЭС. На плошчы ў 215 тысяч гектараў у 30-кіламетровай зоне ЧАЭС беларускія вучоныя вядуць назіранні за экалагічным станам гэтай мясцовасці і шукаюць шляхі выкарыстання прыродных рэсурсаў, якія ў значнай меры падвергліся радыяцыйнаму забруджванню.

У запаведніку жывуць 44 віды млекакормячых, больш за 70 разнавіднасцяў птушак, у рэках і азёрах разводзіцца каля 25 відаў рыб. Вядзецца і гаспадарчая дзейнасць: ёсць свой цэх па перапрацоўцы драўніны, вырошчваюцца пладовыя дрэвы.

## Лукашэнка ажаніўся

***Узяў шлюб старэйшы сын беларускага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, 22-гадовы Віктар, які толькі што скончыў факультэт міжнародных зносін Белдзяржуніверсітэта.***

Ён узяў у жонкі будучую настаўніцу гісторыі і англійскай мовы Лілію Сомаву. Ёй толькі 18 гадоў, але яна ўжо скончыла другі курс педагагічнага універсітэта імя М. Танка. Дзяўчына нарадзілася і вырасла ў тых жа Рыжкавічах пад Шкловам, дзе жыве жонка беларускага прэзідэнта. Бацька Лiлii працуе рабочым у камбінаце будаўнічых матэрыялаў, маці — фельчар у мясцовай хуткай дапамозе.

Распісваліся маладыя ў Фрунзенскім ЗАГСе сталіцы, а вяселле прайшло пад Заслаўем, у прэзідэнцкай рэзідэнцыі.

## Калі ласка, у Польшчу

***З 1 жніўня пасольства Польшчы ў Мінску, а таксама консульствы ў Брэсце і Гродне пачалі выдаваць шматразовыя і аднаразовыя візы.***

Кошт шматразовай візы складае 14 долараў ЗША, аднаразовай — 5 долараў. Тэрмін выдачы — 7 рабочых дзён. Экспрэс-візу можна атрымаць за 3 дні, але каштавае яна будзе даражэй на 24 долары.

## Беларускі рубель слабее

***Курс безнаяўнага долара менш чым за тыдзень вырас адразу на 15 тысяч беларускіх рублёў.***

Калі яшчэ 29 ліпеня ён каштаваў у межах недзе 70—72 тысячы рублёў, то 5 жніўня курс даходзіў да 84—86 тысяч рублёў.

Чарговы абвал курсу нацыянальнай валюты, на думку банкіраў, выкліканы шэрагам прычынаў. Асноўная — гэта канчатковая забарона з 17 жніўня экспарту шэрагу беларускіх тавараў за беларускія рублі. З гэтага часу тавары (у ліку якіх перш за ўсё тыя, якія карыстаюцца вялікім попытам на расійскім рынку) можна будзе прадаваць за мяжу выключна за цвёрдую валюту. Натуральна, што пры такой пастаноўцы пытання попыт на беларускія грошы хутка скарачаецца. Праз пару тыдняў яны будуць фактычна непатрэбныя нікому з замежных фірмаў.

За безнаяўным курсам долара ўверх пайшоў і наяўны курс. Ужо ў нядзелю, 2 жніўня, на "чорным" (а значыць — рэальным) рынку долары куплялі па 63 тысячы рублёў.

## Памяці вялікага артыста

***Дом-музей ураджэнца гэтай мясцовасці, аднаго з найбольш яркіх і папулярных артыстаў савецкага кіно Пятра Алейнікава адчыніўся ў вёсцы Крывель Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці.***

На жаль, да гэтага моманту для ўвекавечвання памяці славутага земляка ў рэспубліцы не было зроблена практычна нічога. Адкрыццё дома-музея прайшло дастаткова будзённа — чакаемая група расійскіх кіназорак на чале з Вячаславам Ціханавым не прыехала. Убаку ад гэтага мерапрыемства застаўся Саюз кінематаграфістаў Беларусі.

*(Па старонках рэспубліканскіх газет).*

# КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ИРИНА. Студентка. По гороскопу — Весы. Нравится, когда дарят цветы. Хобби — вождение машины. Любимый певец — Гарри Мур, актер — Брюс Уиллис. Люблю домашних животных.*

● РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна ў мінулыя выхадныя (у тысячах руб. за адзін кілаграм) былі наступныя:*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза |
|---|---|---|---|
| Свініна | 110—120 | 140—200 | 110—150 |
| Сала салёнае | 100 | 110 | 100 |
| Алей (1 л) | 77—85 | 74—94 | 80—90 |
| Малако (3 л) | 18 | 21 | 21 |
| Тварог | 24 | 30 | 30 |
| Масла сметанк. | 90 | 95 | 90 |
| Агуркі | 8—10 | 10—15 | 12—15 |
| Цыбуля рэпч. | 30—40 | 40—50 | 40—50 |
| Капуста | 13—15 | 13—16 | 12—15 |
| Бульба | 8—10 | 9—12 | 6–10 |
| Морква | 30 | 40 | 30 |
| Часнык | 75 | 100 | 90 |
| Памідоры | 25—45 | 30—50 | 35–40 |
| Яблыкі | 10—20 | 10—30 | 5—15 |
| Лімоны | 65 | 70 | 77 |
| Апельсіны | 55 | 50 | 54 |
| Персікі | 120 | 140 | 140 |
| Алыча | 15 | 10—15 | 10 |
| Грэчка | 37 | 35 | 35 |
| Проса | 20 | 21 | 20 |
| Макар. вырабы | 22 | 27 | 28 |
| Мука (в. г.) | 18 | 18 | 20 |
| Цукар | 31 | 32 | 31 |
| Мёд | 200 | 250 | 150 |
| Лісічкі | 50 | 80 | 70 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 62 | 65 | 63 | 66 | 62 | 65 |
| 1 дойчмарка | 31 | 33 | 32 | 33 | 31 | 33 |
| 1 рубель Расіі | 9 | 9,5 | 9 | 9,5 | 9 | 9,5 |

● ПРАЗ ЦЕРНІ — У РЫНАК

***Зачыняюцца дзіцячыя садкі, бо не хапае сродкаў на іх утрыманне. Пустуюць кінатэатры — людзі не хочуць глядзець дэманструемыя адны і тыя ж фільмы. Расфарміроўваюцца пачатковыя школы і ўстановы культуры — у абязлюдзеных вёсках няма каму туды хадзіць. Усё паступова набывае прыкметы закінутасці і запусцення пад дружны хор існуючых каналаў галоснасці "Няма грошай", "Няма сродкаў".***

***На гэтым фоне дзейнасць Бярозаўскага райпо па рэканструкцыі магазінаў выглядае прыемным выключэннем, светлым промнем надзеі, што яшчэ не ўсё згублена. Як ідзе абнаўленне гандлёвых кропак — тэма гутаркі карэспандэнта "Газеты для вас" з тавара-знаўцам райпо Ганнай Іванаўнай МАЖЭЙКА.***

# Крамы: новае ўбранне

**— Апошнім часам у раёне інтэнсіўна ідзе рэканструкцыя крамаў. Што падштурхнула заняцца гэтай справай? Мо, як кажуць людзі, абласное свята дажынак, якое будзе праводзіцца восенню у Бярозе?**

— Хіба дрэнна, калі нешта рэканструіруецца, няхай і да свята? Але справа не ў святе, а ў эканамічным стане. Пабудаваць цяпер новую краму — справа даволі складаная, патрэбны вялікія грошы. А 143 магазіны і 5 хата-лавак, што ёсць у нашым распараджэнні, трэба ж падтрымліваць у належным стане, рабіць у іх рамонт.

Кожны з нас гаспадар. У сваёй кватэры мы штогод нешта фарбуем, габлюем, мяняем. Так і ў гандлёвых кропках. Калі ёсць будынак, значыць утрымліваць яго трэба ў прывабным выглядзе.

Рэспубліканскі семінар кіраўнікоў і спецыялістаў спажывецкай кааперацыі, праведзены летась у сакавіку, адобрыў наш вопыт па рэканструкцыі і рэкамендаваў яго для пераймання іншым гандлёвым таварыствам.

**— Як пачыналі, Ганна Іванаўна! Ці аказаўся першы блінец камяком?**

— Першай ластаўкай стаў магазін "Люкс". Гэта цяпер у яго такая прыгожая назва, а раней кропка называлася распаўсюджаным і безаблічным словам "Прадукты". Што там зрабілі? Замянілі гандлёвае і тэхналагічнае абсталяванне, паставілі халадзільныя прылаўкі і вітрыны, набылі касавыя апараты і электронныя вагі — 398 мільёнаў затрацілі на набыццё новага абсталявання. Зразумела, былі яшчэ рамонтна-будаўнічыя работы, звязаныя з перапланіроўкай гандлёвай плошчы, афармленнем будынка. "Люкс" набыў сучасны дызайн, усяго затрачана на рэканструкцыю 840 мільёнаў рублёў.

Выдаткі, як бачыце, унушальныя, аднак праз некалькі месяцаў яны акупіліся: тавараабарот вырас у два разы. З кожным месяцам, на нашу радасць, ён расце і зараз дасягае 3,5 мільярда рублёў. Такую выручку даюць 17 гандлёвых работнікаў.

**— Які магазін яшчэ можа пахваліцца сучасным дызайнам?**

— Змянілі сваё аблічча магазін "Лотас". Ён размешчаны ў новым мікрараёне ля калгаснага рынку. У ходзе рэканструкцыі мы цалкам замянілі гандлёвае абсталяванне, паставілі новыя касавыя апараты. Тут абсталявалі кафетэрый на 24 пасадачныя месцы, набылі сюды тэлевізар і магнітафон. Зрабілі арыгінальнае асвятленне. На рамонт, па папярэдніх падліках, пайшло 486,8 мільёна рублёў.

**— Я заходзіў у райцэнтраўскі універмаг, там шчыруюць рамонтнікі...**

— Так, зараз універмаг на рэканструкцыі. Работы ідуць паэтапна: адрамантуем адзін аддзел — пераходзім у другі. Шырока выкарыстоўваем нестандартнае абсталяванне, шкляныя і люстраныя прылаўкі і вітрыны. Разам з нашымі рамонтнікамі працуюць над дызайнам спецыялісты з Мінскай фірмы "Бел-асоль".

**— Гэта ўсё зроблена ў горадзе. А да вёскі рукі даходзяць?**

— У першым паўгоддзі гэтага года наша будаўнічая брыгада адрамантавала крамы ў вёсках Судзілавічы, Машковічы, Самойлавічы, Перасудавічы, гандлёвы комплекс у Міждулессі. У вёсцы Засекі была хата-лаўка, туды мы набылі вагончык і пераабсталявалі яго пад краму. На ліпень-жнівень запланавана адрамантаваць крамы ў вёсках Хойнікі, Давыдавічы, Паўлавічы, Сасноўка, Алёхнавічы, Шылін і Кураўшчына. Там, дзе папрацавалі рамонтнікі, гандлёвыя кропкі змяніліся непазнавальна. Да канца года плануем надаць новае аблічча 17 прадпрыемствам гандлю.

**— Ганна Іванаўна, калі ласка, давайце ўспомнім грамадскае харчаванне. Гэта ж таксама вялікая і неспакойная гаспадарка.**

— У нас раней было 37 кропак, цяпер — 11. Куды яны падзеліся? Проста сталоўкі, што працавалі на кожнай цэнтральнай сядзібе, узяты на баланс калгасаў. Мы да іх зараз не маем ніякага дачынення. Пад нашай апекай, як я сказала, усяго 11 кропак. Вядзем рэканструкцыю сталовай № 1, рэстарана і кафэ ў райцэнтры, адрамантавалі бар у Малечы, сталовую ў Нарутовічах і магазін "Кулінарыя" ў Бярозе. Адчынілі летась на заходняй ускраіне райцэнтра магазін "Каапэратар" ад грамадскага харчавання, які адразу ж заваяваў папулярнасць сярод пакупнікоў.

**— Цяпер, Ганна Іванаўна, у вялікім хаду слоўца "еўрарамонт". Вы чамусьці яго ні разу не ўжылі.**

— Я падтрымліваю нашага старшыню праўлення райпо Марыю Харытонаўну Кузьмінчук. Яна неяк сказала, што яе абурае слоўца "еўрарамонт". Быццам бы мы самі не здольныя нават адрамантаваць па-людску магазін, абавязкова трэба вучыцца ў еўрапейцаў.

**— І што! Не вучыцеся! Самі вынаходзіце веласіпед!**

— Што самі прыдумляем, што пераймаем у іншых. Райпо наладжвала паездкі нашых спецыялістаў у Драгічынскі, Івацэвіцкі, Лепельскі і Полацкі раёны, ездзілі ў Брэст і Мінск, тую ж Польшчу. Мэта адна — паглядзець, як вядзецца рамонт гандлёвых кропак, якія матэрыялы выкарыстоўваюцца, якая аддача абноўленага прадпрыемства.

Цяпер да нас ездзяць вучыцца.

*Гутарыў*
*А. ЛАЎРАНЮК.*
Бярозаўскі раён.

# ПЕДАГОГІКА



*Что ни говорите, а кадры решают все. Антонина Анатольевна Вишневская, приехав в г. Березу несколько лет назад, смогла убедить районное начальство в необходимости открытия художественного отделения на базе Березовской школы искусств.*

*Время подтвердило, что факт появления этого отделения не случаен, более того в работе присутствует конкретный успех. Сегодня мастерская, рабочий кабинет преподавателя, полна красочных полотен и картин. О трудовых буднях школы с Антониной Анатольевной беседует наш корреспондент А. ГОРБАЧ.*

## *Антонина Вишневская:* "СТАРАЮСЬ БЫТЬ РЯДОМ С УЧЕНИКОМ..."



**— Антонина Анатольевна, Вы родились далеко от нашей Брестчины. Какие дороги привели Вас в Березу?**

— Вообще, Березовщина — моя малая родина. Моя мама отсюда родом. Родилась я и жила в Баку, но после известных событий пришлось оставить этот город. Но, скажу откровенно, о своем выборе не жалею. Сердцем чувствую, что Березовщина — мой родной край.

**— Несколько слов об организации обучения в вашей школе...**

— Обучение у нас платное, стоимость за один месяц — 75 000. Стоимость стандартная, такая же стоимость, к примеру, обучения в музыкальной школе. Приходят к нам учиться после четвертого класса общеобразовательной школы. Срок обучения — 4 года.

**— Антонина Анатольевна, читателям интересно будет познакомиться с педагогическими принципами, коих Вы придерживаетесь...**

— Мой принцип — быть рядом с учеником и не учить, а заниматься с ним одним делом. Рабочее место у меня — именно рабочее место, а не подиум. Я стараюсь быть не доктринером, а в какой-то мере, если хотите, партнером своих учеников.

**— Есть успехи?**

— Есть. Работаем мы всего-то пару лет, а уже трое моих учеников учатся в художественных училищах Минска. Вспоминая о том, сколько пришлось с ними провозиться, думаю, что в их нынешних успехах есть и моя заслуга. А весною нынешнего года в Бресте на 1-ом республиканском конкурсе, проводимом Академией художеств, мой ученик Андрей Лещук занял первое место и без экзаменов был принят в художественное училище Минска. Одним словом, есть чем и возгордиться.

**— А каковы Ваши личные успехи в творчестве?**

— Готовлюсь к собственной выставке картин, которую хочу провести в Бресте. Хочется подготовиться основательно, поэтому я особенно не тороплюсь. Да и знаете, если отдаваться делу сполна, то мало остается времени на свои проекты. Работа забирает столько сил и времени!

**— А, кстати, как Вам показалась наша Беларусь, Ваши впечатления о людях Брестчины?**

— Спокойные, уравновешенные, трудолюбивые, не лишенные эстетических чувств люди. Ваша провинция не отдает, так сказать, затхлостью, дыхание цивилизации висит прямо в воздухе. Береза ведь — сердце Европы (смеется).

**— Оценив Ваши работы и педагогические достижения, хочу пожелать Вам личных творческих успехов и успехов Вашему художественному отделению.**

— Спасибо. Желаю всяких благ и "Газете для вас".

г. Береза.

# ВЫНІШЧАЕЦЦА ДУХОЎНАЯ КУЛЬТУРА

Мы жывём у такі час, калі губляюцца такія чалавечыя каштоўнасці, як сумленнасць, дабрыня. Падласць, падман, злосць, крывадушнасць — вось што зараз пераважае. Любое праяўленне чалавечнасці многімі людзьмі ўспрымаецца як слабасць характару. Раней у жыцці арыентаваліся на пэўны ідэал: на Леніна, партыю, камсамол. У літаратуры выхаванне школьнікаў таксама было пабудавана на ідэалах: Павел Карчагін, Аляксандр Матросаў і г. д. Зараз на ўроках літаратуры настаўнікі арыентуюцца на выхаванне чалавечнасці ў вучняў, г. зн., да любога вобраза з літаратуры, ці да любога чалавека з жыцця падыходзяць з пазіцыі чалавечнасці, а не ў залежнасці ад класавых інтарэсаў. Але ж дзеці за сценамі школы бачаць іншае. Аднойчы ў адной са школ былы выпускнік падчас сустрэчы на вечары задаў настаўнікам пытанне: "Вось вы нас выхоўваеце чэснымі, сумленнымі. А ў жыцці мы бачым зусім іншае. Як нам быць? І сам жа адказаў: "Самімі сабой". Я дадаў бы: "Чалавекам". Чалавекам з вялікай літары. А гэта вельмі цяжка зараз. Гэта прыраўноўваецца да подзвігу ў наш час, таму што патрабуе вышэйшага напружання ўсіх нашых духоўных сіл, каб выстаяць, не зламацца, не паддацца адмоўнаму напору нашага часу.

Я часта задаваў многім людзям пытанне: "Калі б у вас была магчымасць назначаць на дзяржаўныя пасады людзей, то якімі крытэрыямі вы карысталіся б: каб той чалавек быў добрым палітыкам, ці добрым эканамістам, ці нешта іншае?" Адказы былі розныя: добрым палітыкам; добрым эканамістам; добрым палітыкам і эканамістам адначасова. Але ні разу я не пачуў таго, чаго хацеў: каб той чалавек меў высокую духоўную культуру. Усё астатняе (грунтоўную палітычную і эканамічную адукацыю) ён набудзе. Але калі ў яго будзе на першым плане высокая духоўная культура, тады ён будзе сапраўды жыць найперш для другіх, а не для сябе. А ў нас такіх людзей зараз вельмі мала.

Куды мы ідзем? Што нас чакае? Давайце зазірнем у свае душы — і мы жахнемся тым, што там убачым. І яшчэ добра, калі ўбачым. Мы ўжо становімся сляпымі духоўна. Многія ўжо не могуць адрозніць, што добра, а што дрэнна, што подла, а што сумленна...

*В. КАВАЛЬЧУК,*
*настаўнік беларускай мовы і літаратуры Святавольскай СШ.*

# а Вялікай Айчыннай: аму верыць?



небудзь подзвіг? Прызнайцеся, дзядзька Іван!

— Які там подзвіг! Падурэць хацелася, пастраляць. Што ў такім узросце ў галаве? Адна дурасць!

— Няўжо гэтыя вылюдкі нічым вам не нашкодзілі, — не веру я.

— Чаго ж. Было паўсяляками. Адзін раз мне моцна дасталося ад аднаго немца.

— Ага! Значыць паказалі яны сваё звярынае нутро?

— Як сказаць. Адзін раз я, схаваўшыся ад маці, курыў за хатаю. А немец, які жыў у нас, заўважыў гэта. Знайшоў добры дубец і высек за гэта мяне там жа, за хатаю. Мала даў, — працягвае дзядзька Іван. — Каб кінуў тады, то мо і зараз не курыў бы гэтую атруту, здаравейшым быў...

Дзядзька Аляксей, што падышоў да плота, слухае нас і ўсміхаецца.

— Памятаю той дзень, калі цераз нашу вёску ехалі немцы, — кажа ён. — Мы, дзеці, са страхам пазіралі на тыя матацыклы, што равучы ехалі міма хат. Адзін матацыкл засеў у пяску, і немец, памятаю, махнуў нам рукою, каб мы падбеглі і дапамаглі выпіхнуць яго. Мы нясмела падбеглі, дапамаглі, і немец, высокі, загарэлы, смеючыся падаў нам шакаладку і два яблыкі. Гэтыя яблыкі і сёння стаяць у мяне ў вачах. Шчыра кажучы, мы, дзеці, зноў чакалі, калі праз вёску зноў будуць ехаць немцы, але так і не дачакаліся. Вёска наша стаяла амаль у лесе, і часта наведваліся партызаны, але ад іх нам больш даставалася кухталёў і падзатыльнікаў, чым падарункаў...

— Вось мой сын, што цяпер жыве ў Мінску, мне даказвае, — працягваў дзядзька Аляксей, — што Хатынь спаліла нейкая ўкраінская хеўра на чале з нейкім Сымонам ці Сямёнам. У Рызе вунь маршыруюць былыя эсэсаўцы, якія палілі беларускія вёскі. Ды і ў нас было шмат паліцаяў, якія ваявалі з тымі ж партызанамі. Немцаў тут былі адзінкі. Яны з фронтам пайшлі на ўсход у 41-м і адступілі назад у 44-м.

ХХХ

Фашызм у 41-м распаліў пажар страшнай вайны. Праклён і ганьба яму на вякі за гэта. Але, я думаю, куды мне цяпер дзець успаміны бабы Соні і маіх суседзяў-пенсіянераў. Гэтыя ўспаміны стаяць неяк асобна, у іх няма пад нагамі глебы, і я павінен лічыць, што гэтыя людзі або з'ехалі з глузду, або ілгуць бессаромна.

У нашай гісторыі была ўжо адна вайна, таксама Айчынная. Вайна з Напалеонам у 1812 годзе. Пасля яе было шмат напісана пра гераізм рускай арміі, крывадушнасць французаў.

Але найбольш поўна гэтая вайна была апісана толькі цераз 50 гадоў пасля яе заканчэння. Я маю на ўвазе раман "Вайна і мір" Льва Талстога. Чытаючы ж сёння мемуары, гледзячы фільмы пра Вялікую Айчынную, неяк разумееш: поўнай карціны тых год няма дагэтуль.

Можа і трэба, каб прайшлі доўгія гады, "утихли страсти" і каб быў напісаны "свободный роман", дзе знойдзецца месца не толькі чырванашчокім партызанам і азвярэлым немцам, але ўспамінам бабы Соні, дзядзькі Івана, дзядзькі Аляксея. І іншых.

*К. ВАСІН.*

● *СЛУЖБА 01*

# Лягчэй папярэдзіць, чым патушыць

Нягледзячы на працяглыя праліўныя дажджы, па-ранейшаму здараецца мноства пажараў. Зарэгістравана з пачатку года 61 вогненнае здарэнне.

Найчасцей бяду выклікае неасцярожнае, нядбайнае, абыякавае стаўленне да агню і яго крыніц. Толькі па гэтай прычыне адбылося ўжо 23 пажары. Дарэчы, менавіта пажары, што здарыліся па прычыне неахайнасці пры карыстанні агнём, пазбавілі жыццяў шасцярых чалавек, двое з якіх зусім маленькія дзеткі. Аднак першапрычынай гэтых вогненных трагедый з'яўлялася п'янства, а ўжо потым цыгарэта, якая ў п'яных, няўпэўненых, дрыготкіх руках станавілася забойцай.

Пажары ад звычайнай неасцярожнасці, халатных адносінаў да выканання правілаў пажарнай бяспекі ў асабістых домаўладаннях здараліся сёлета ў райцэнтры, вёсках Размеркі, Аброва, Краглевічы, Козікі, Соміна і іншых. Здарылася ўзгаранне ў аўтафургоне, які належаў Івацэвіцкаму райпо па дарозе Івацэвічы—Уцёс. Аўтамабіль перавозіў драўляную тару ў фургоне, які зроблены з драўляных брускоў, абабітых бляхай. Прычынай узгарання паслужыў кінуты акурак цыгарэты, які трапіў паміж бляхай і драўлінай фургона. Прычынены гэтым пажарам ма-



тэрыяльны ўрон склаў 8 млн. рублёў.

Не-не, і дзеці ўсё ж бяруцца за запалкі і даводзяць гульню з "чырвоным пеўнем" да самых крытычных момантаў. 7-гадовая Марына Высоцкая падпаліла склеп у двары дзядулі А. П. Бахура з в. Любішчыцы. Здараецца такое таму, што некаторыя бацькі яшчэ слаба клапоцяцца аб бяспецы ўласных дзяцей, не знаходзячы часу для сур'ёзнай, павучальнай гутаркі аб шкодзе і карысці агню.

Падчас лета зафіксаваны пажары ад карыстання няспраўным пячным абсталяваннем. Такое высветлілася ў час пажару ў летняй кухні жыхара г. п. Целяханы А. П. Пазняка. Тут печ не мела неабходных раздзелак, як гэта прадугледжана адпаведнымі патрабаваннямі. Дадзены выпадак яшчэ раз сведчыць аб тым, што печы заўсёды павінны быць спраўнымі, а лета — самы спрыяльны час для рамонту іх.

Ад вылецеўшых іскраў з дымавой трубы катла-кормазапарніка, устаноўленага ў летняй кухні жыхара в. Налійкі В. В. Мароза, загарэлася збудаванне. Пажарныя з дапамогай вяскоўцаў хутка ліквідавалі полымя, чым выратавалі ад знішчэння размешчаныя паблізу пабудовы.

*В. МОЛАШ, ст. супрацоўнік ЦНППБ АВПС Івацэвіцкага раёна.*

**пашана малавата. У чым прычына? Яна вядомая: неспрыяльныя ўмовы надвор'я. Канешне, нельга скідваць з рахункаў зацяжныя дажды, што назіраліся падчас касавіцы. Аднак нельга замоўчваць і наша паталагічнае няўменне супрацьпаставіць арганізаванасць прыродным капрызам.**

**Селяніну, што трымае карову, няма як ківаць на неспрыяльныя ўмовы, яму трэба забяспечыць сваю карміцельку сенам. І ён нарыхтоўвае. Мінаюць дзесяцігоддзі, а селянін, як і яго продак 100—200 гадоў таму, узяўшы касу, здабывае сена па крыхах.**



Фота А. ГАНЧУКА.

